**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 48 (816) 26 лістапада 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае







**Першы снег у Глыбокім.**
*Фота Зм. Лупача.*









**Падача абвестак па тэлефоне № 166**















ISSN 2077-8023



## Ушацкі раён

# Споўнілася воля паэта

■ Станіслаў Раманчук.

**На сапраўдныя цуды здольныя заўжды людзі з добрымі і адкрытымі сэрцамі, асабліва, калі іх многа і яны разам.**

Летась у пачатку сакавіка ва Ушачах тысячы людзей праводзілі ў апошні шлях ад роднай хаты ў райцэнтры на мясцовыя могілкі труну з памерлым народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным. Тады падчас развітання яны пакляліся свята захоўваць памяць пра славутага земляка і гэту клятву стрымалі. Амаль два дзесяцігоддзі назад паэт у адным з вершаў нагадаў аб сваім жаданні быць пахаваным на радзіме пад сівым камянём-валуном. Літаратар некалькі гадоў назад у адным з інтэрв'ю пацвердзіў сваю волю. І як на шчасце, сёлета летам у раёне, менавіта на радзіме яшчэ аднаго волата беларускай літаратуры Васіля Быкава, такі падыходзячы камень вагой 2,5 тоны знайшоўся. Мясцовыя ўлады дапамаглі з дастаўкай яго ў райцэнтр, стварылі ўсе ўмовы для працы сталічнага скульптара Ігара Засімовіча. Ён працаваў, як і многія іншыя, бескаштоўна, вырабіў на камені крыж і надпіс "Рыгор Барадулін. Сын. 1935-2014". Сотні людзей перанеслі за дзень рукамі 800 вядзёр цэменту, і майстры райкамунгаса вырабілі падмурак ля помніка побач з магілай маці паэта. Аднак неверагодна складана было даставіць валун на высокі ўзгорак, на якім размяшчаюцца старажытныя могілкі райцэнтра. Гэту праблему па просьбе райвыканкама і Саюза беларускіх пісьменнікаў дапамагло выканаць падраздзяленне авіяцыі МНС Беларусі. Калі ўсталявалася спрыяльнае надвор'е, са сталіцы прыляцеў спецыяльны верталёт, і вопытны пілот з памочнікам філігранна па паветры даставіў і апусціў груз у патрэбнае месца. Воля беларускага паэта споўнілася, а ягоную магілу навечна будзе ўпрыгожваць сівы валун з крыжам, з жорнамі на пастаменце вакол прыгожага помніка.

## Пастаўскі раён

# Дамы паблізу фермы

■ Кастусь Александровіч

**Свае шматлікія правалы і безгаспадарчасць прывыклі на вёсцы тлумачыць дыспарытэтам цэн, высокімі працэнтнымі стаўкамі ў банках і іншымі прычынамі.**

Аднак там, дзе прытрымліваюцца тэхналогій, эфектыўна і плённа працуюць, маюць зусім іншыя вынікі. Вось і ў Пастаўскім раёне змаглі ў вядомай гаспадарцы "Навасёлкі-Лучай" напрыканцы года здаць у эксплуатацыю другую чаргу сучаснай фермы з даярамі-робатамі ў Коўзанах, хоць на гэты аб'ект неабходна было адшукаць 32 млрд. рублёў. У той самы час іншыя гаспадаркі краю сядзяць без грошай і не могуць прадаўжаць праграму рэканструкцыі і мадэрнізацыі сваіх ферм. Аднак у Навасёлках іншы падыход, бо толькі ў першым паўгоддзі зарабілі звыш 37 млрд. рублёў выручкі, толькі мяса прадалі 574 тоны. На сваёй самай сучаснай ферме штодзень атрымоўвалі прадукцыі на суму звыш 31 млн. рублёў выключна класа "экстра". Увод у эксплуатацыю другой яе чаргі на 420 кароў дазволіць яшчэ больш мець малака. Таксама такая праца вядзецца ў комплексе, бо да новага года ў Коўзанах паблізу новай фермы здадуць для яе работнікаў яшчэ два 4-кватэрныя жылыя дамы з усімі зручнасцямі. Дарэчы, тут ёсць свая будаўнічая брыгада з 20 пастаянных будаўнікоў на чале з прарабам. Уласнымі сіламі аднавілі тры дамы сядзібнага тыпу на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі, дзе яшчэ сёлета правялі рэканструкцыю бульбасховішча і свінафермы, адрамантавалі таксама канюшню з цялятнікам. Ужо нікога не здзіўляе, што сёлета за тры тыдні закончылі ўборку траў і жніво, а валавы намалот зерня перавысіў 15 тысяч тон пры ўраджайнасці 51,6 цэнтнера з гектара.

## Полацкі раён

# Майстар-клас ад легенды

■ Чэслаў Якубовіч.

**Шмат дзе ў свеце добра ведаюць трохразовую алімпійскую чэмпіёнку, беларускую біятланістку Дар'ю Домрачаву.**

Гэты сезон з-за пэўных праблем са здароўем уладальніца Вялікага крыштальнага глобуса за перамогу ў апошнім Кубку свету вырашыла прапусціць, у праслаўленай спартсменкі з'явілася болей вольнага часу. Яна пагадзілася наведаць днямі па запрашэнню Наваполацкае дзяржаўнае вучылішча алімпійскага рэзерву, а для больш сотні яго навучэнцаў гэта сустрэча стала яркай і незабыўнай падзеяй. Тут сустрэлі Героя Беларусі шчыра і гасцінна, правялі экскурсію па вучылішчу, паказалі трэніровачную базу, сталовую і студэнцкі інтэрнат. Асабліва спадабалася праслаўленай біятланістцы гордасць спецыялізаванай навучальнай установы – сучасная лыжаролерная траса. Хоць на вуліцы было даволі цёпла, але з дапамогай узятай у арэнду фінскай устаноўкі насыпалі лыжню са штучным снегам. Алімпійская чэмпіёнка скарысталася гэтай магчымасцю і правяла для сваіх малодшых калег адкрытую сумесную трэніроўку, паказала і расказала, як дабіцца на трасе ідэальнай тэхнікі праходжання дыстанцыі. Акрамя гэтага, Дар'я пагутарыла з юнымі спартсменамі, пабывала ў музеі спартыўнай славы вучылішча і прывезла для яго ў падарунак вялізны фотаздымак з аднаго этапаў Кубка свету па біятлону са сваім аўтографам. Усе пераканаліся, што зорная спартсменка ў жыцці простая, душэўная і добразычлівая для акружаючых чалавек, з якім прыемна мець справы.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.11.15 | | | | Пятніца 27.11.15 | | | | Субота 28.11.15 | | | | Нядзеля 29.11.15 | | | | Пан. 30.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -2 | -1 | -2 | -2 | -2 | -1 | -1 | -3 | -3 | -1 | -1 | -1 | 0 | 0 | 0 | -1 | -1 | 0 |
| Ціск | 747 | 747 | 748 | 749 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 747 | 745 | 744 | 743 | 742 | 741 | 741 | 741 | 743 | 743 |
| Вецер м/сек | 4 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 2 Ю-З | 3 Ю-З | 3 Ю-З | 5 Ю-З | 3 Ю-З | 3 Ю-З | 5 Ю | 5 Ю | 5 Ю | 4 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю-В | 1 Ю | 2 З | 4 Ю-З |
| Вільготнасць | 80 | 74 | 67 | 73 | 73 | 77 | 75 | 80 | 81 | 84 | 76 | 85 | 94 | 97 | 98 | 98 | 100 | 98 | 97 |

# Аб самым надзёным

## КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД РАСІЙСКАЙ АВІЯБАЗЫ І АДНАЧАСОВА ДАБІВАЕЦЦА ІСТОТНАЙ МАДЭРНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ АРМІІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Ваенныя эксперты адзначылі таксама, што такім чынам і галоўнаму саюзніку на Усходзе быў пасланы сігнал, што беларусы самі ў значнай ступені могуць за сябе пастаяць, хоць нікому не пагражаюць, хочуць жыць у міры з нашымі суседзямі і іншымі дзяржавамі, але і свае інтарэсы будуць абараняць.**

Пасля нядаўняй урачыстай цырымоніі інаўгурацыі нованабранага беларускага лідара ў Палацы Незалежнасці, як вядома, яна прадоўжылася ўжо па суседству на плошчы Дзяржаўнага сцяга Беларусі. Прэзідэнт хуценька пераадзеўся ў даволі цікавую сваю форму Галоўнакамандуючага, а ваеннаслужачыя розных відаў войск не толькі арміі, але і ваенныя фарміраванні МУС, КДБ, Пагранкамітэта, па надзвычайных сітуацыях, іншыя службоўцы ў пагонах прынеслі клятву на вернасць беларускаму народу і главе дзяржавы. Па сутнасці сваёй, яна не з'яўляецца Ваеннай прысягай, як пацвердзілі ў Мінабароны, але аб многім сведчыць.

Сапраўды, гэта правільна, што пытанні абароны краіны, функцыянавання нацыянальнай сістэмы бяспекі ў ліку першарадных павінны быць у любой дзяржавы. Свет вакол нас даволі зараз неспакойны, што пацвярджаюць драматычныя падзеі вакол суседняй Украіны. І дагэтуль А. Лукашэнка даволі часта сустракаўся з сілавікамі, наведваў воінскія часці і прадпрыемствы айчыннага ВПК. Пакуль аб гэтым гаворыцца мала, але калі разабрацца ў гэтай сферы адстойвання тэрытарыяльнай цэласнасці, неабходныя рэформы іператварэнні ідуць даўно. Пасля выбараў, нагадаем, кіраўнік краіны на працягу аднаго тыдня тройчы меў важныя сустрэчы з ваеннымі.

Невыпадкова перад гэтым ён публічна заяўляў, што " мы будем защищаться от тех, кто поставит своей целью на нас нападать". Беларускі лідар спачатку наведаў 120-ю асобную механізаваную брыгаду ва Уруччы, дзе ён сам некалі служыў, а потым пабываў на аператыўным зборы вышэйшага складу Узброеных Сіл. Лагічным працягам такіх сустрэч стаў яго візіт на ваенны завод у Дзяржынскім раёне, бо кіраўніцтва краіны павінна дакладна ведаць, ці гатова наша армія і іншыя сілавыя структуры адказаць на выклікі сучаснага часу . Як вядома, А. Лукашэнка даручыў ствараць кампактныя ваенныя структуры і, падобна на тое, што ён канчаткова адмаўляецца ад размяшчэння на нашай тэрыторыі расійскай авіябазы.

Ваенныя эксперты адзначылі таксама, што такім чынам і галоўнаму саюзніку на Усходзе быў пасланы сігнал, што беларусы самі ў значнай ступені могуць за сябе пастаяць, хоць нікому не пагражаюць, хочуць жыць у міры з нашымі суседзямі і іншымі дзяржавамі, але і свае інтарэсы будуць абараняць. І гэта – не адны толькі голыя словы. Нядаўна беларускі ваенпрам стварыў суперсучасную зброю "Маскіт", якая здольная знішчаць не толькі танкі праціўніка, але і іншую баявую тэхніку ворага. Галоўнакамандуючаму ва Уруччы прадэманстравалі навінку – сучасныя супрацькумулятыўныя экраны ў форме рашотак для абароны беларускай бронетэхнікі.

На ваенным заводзе паблізу сталіцы А. Лукашэнка пазнаёміўся, як ідзе мадэрнізацыя па самых сучасных сусветных стандартах беларускіх сістэм залпавага агню "Паланэз". Менавіта беларускія ваенныя спецыялісты асвоілі, што такія ракеты сталі ўпраўляемыя з высокай дакладнасцю паражэння цэляў на адлегласці да 200-х кіламетраў. Распрацоўваюцца ў нас паспяхова і сістэмы спутнікавай сувязі, дакладнага навядзення і сувязі, таксама беспілотныя лятальныя апараты, больш магутныя боепрыпасы. У бліжэйшай перспектыве сістэмы "Паланэз" давядуць да дальнасці стральбы да 500 км, а гэта азначае, што з такой краінай не трэба сварыцца і ёй пагражаць. Як сцвярджалі ў далёкім мінулым: калі хочаш міру – рыхтуйся да вайны.

Маючы такі ваенны патэнцыял, беларусы могуць спакойна жыць і працаваць, праводзіць міралюбівую знешнюю палітыку, аднак зараз яшчэ краіне патрэбна вырашаць нялёгкія эканамічныя праблемы. Канечне, адна моцная армія не з'яўляецца поўнай гарантыяй бяспекі Беларусі, тым больш, што зараз сталі ўваходзіць у моду розныя гібрыдныя і інфармацыйныя войны. Такім чынам павяла сябе суседняя Расія і апошніх гадоў 10-15 усяляк ціснула на ўкраінцаў эканамічна, прадавала энергарэсурсы звышдорага за іх адмову падчыняцца інтарэсам Крамля, пакуль не пайшла ваеннай сілай у Крым і на Данбас. Да пагроз магчымай супраць нас гібрыднай вайны, новых фільмаў "Крестный батька" і г.д. беларусы таксама павінны адносіцца сур'ёзна.

Да таго ж у нас пакуль поўнае інфармацыйнае засілле расійскіх тэлеканалаў, практычна паўсюдна дамінуе руская мова, а расійскія алігархі хоць заўтра гатовы прагліну ць за бясцэнак найбольш прывабныя кускі беларускай індустрыі і не папярхнуцца. Калі зараз дзяржава ўзмацняе свой абаронны патэнцыял, але і кожны з нас павінен болей адчуваць сябе грамадзянінам менавіта Беларусі, адчуваць сябе беларускімі людзьмі, а не прадстаўнікамі праслаўтага "русского мира". У цяперашняй сітуацыі толькі рост нацыянальнай самасвядомасці і беларускага патрыятызму з дапамогай таксама людзей у пагонах умацуе патрэбныя для ўсіх мір, спакой і парадак на беларускай зямлі.

## Дзень за днём

**Пасля выбараў зноў сталі расці па краіне запазычанасці па зарплаце. А. Лукашэнка загадаў знізіць інфляцыю, нават калі будзе цяжка з бюджэтам. Эксперты банка ЕБРР пагоршылі прагнозы развіцця Беларусі ў 2016 годзе. З новага года мінімальную заработную плату павысяць да 2,5 мільёна рублёў. Беларусы пачнуць плаціць падаткі з працэнтаў па дэпазітах. Золатавалютныя рэзервы краіны ў кастрычніку выраслі на 38,1 мільёна долараў. Беларусь не стала адмяняць авіяперелёты ў Егіпет, як і Украіна, Польшча, Італія. У краіне за апошнія 8 гадоў закрылі 28 дзіцячых дамоў і школ- інтэрнатаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Прапанова Расіі ўстанавіць на 18 месяцаў пераходны перыяд з рэжымам Б. Асада не задаволіла дзяржавы Захаду і Нацыянальную кааліцыю апазіцыйных сіл.

**Іспанія.** Парламент Каталоніі большасцю 72 галасоў дэпутатаў супраць 63 зацвердзіў рэзалюцыю аб незалежнасці гэтай самай багатай аўтаномнай вобласці краіны.

**Ірак.** Узброеныя фарміраванні курдаў пачалі буйное наступленне супраць баевікоў "Ісламскай дзяржавы", аднак да міру ў рэгіёне і ў Сірыі яшчэ вельмі далёка.

**ЗША.** На выставе AUSA паказалі два найноўшыя танкі з моцна пашыранымі баявымі здольнасцямі, сістэмай падрыву снарадаў у запраграмаваным камп'ютарам месцы.

**Украіна.** Вядомы расійскі ваенны эксперт П. Фельгенгаўэр папярэдзіў, што пасля Новага года Пуцін зноў пойдзе ў атаку ў Данбасе, каб адсунуць лінію фронта ад Данецка.

**Аўстрыя.** Глава Міжнароднага энергетычнага агентства Ф. Бірол папярэдзіў, што свет рызыкуе паўтарыць нафтавы крызіс 70-х гадоў з-за рэзкага спаду інвестыцый у галіну.

**Англія.** Новы глава ІААФ лорд С. Коу пацвердзіў, што як толькі выявяцца новыя факты допінгу ў Расіі, то яе каманду нельга допускаць да Алімпіяды-2016 у Рыа-дэ-Жанейра.

**Швецыя.** З-за рэкорднага наплыву звыш 80 тысяч уцекачоў-мігрантаў з Азіі і Афрыкі краіна аднавіла пагранічны кантроль на граніцах мінімум на 3 месяцы.

**М'янма.** Упершыню ў гісторыі краіны на ўсеагульных выбарах перамагла апазіцыйная "Народная ліга за дэмакратыю" на чале з былой палітзняволенай Аун Сан Су Чжы.

**Расія.** Прэм'ер-міністр Д. Мядзведзеў паведаміў аб неабходнасці павышэння пенсійнага ўзросту з 60 да 65 гадоў для расіян, але спачатку гэта мера закране дзяржслужачых.

**Таджыкістан.** Масавыя абурэнні таджыкаў выклікала згвалтаванне і забойства 22-гадовай мясцовай дзяўчыны п'янымі афіцэрамі расійскай 201-й ваеннай базы ў Душанбе.

**Польшча.** Варшаўскі ўніверсітэт прыняў на работу адразу 11 выкладчыкаў-гісторыкаў з Беларусі, у тым ліку 4-х прафесараў, звольненых з працы ў ВНУ за не "тыя" погляды.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус заявіў, што літоўцы хоць заўтра гатовы адкрыць для беларусаў малы прыдарожны рух праз граніцу, але ўлады РБ 2 гады яго блакуюць.

**Швейцарыя.** Незалежная камісія Сусветнага антыдопінгавага агентства рэкамендавала адхіліць расійскіх лёгкаатлетаў ад міжнародных стартаў за сістэму масавых махінацый.

**Турцыя.** На матчы Лігі Еўропы па футболе прыхільнікі маскоўскага "Лакаматыва" павялі сябе па-хамску, спусцілі штаны і паказалі туркам свае аголеныя задніцы, пачалі бойку.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Перад Беларуссю, як папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, можа ўзнікнуць у 2016 годзе пагроза дэфолту, калі не будзе прытоку валюты ад крэдытаў і ад прыватызацыі.

**Столін.** Выпускніка Альшанскай СШ з залатым медалём, 38-гадовага пракурора Брэсцкай вобласці Івана Наскевіча прызначылі новым кіраўніком Следчага камітэта Беларусі.

**Мінск.** Як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, нейкія рэформы праз не хачу ў Беларусі будуць, але не комплексныя, палавінчатыя, у многім паказушныя, ды і тыя з адкатамі.

**Гродна.** Арышт КДБ сенатара Савета Рэспублікі, гендырэктара кампаніі "Біякам" Андрэя Паўлоўскага можа негатыўна адбіцца на дзейнасці амаль 700 прадпрыемстваў краіны.

**Мінск.** Глава прафсаюза РЭП Г. Фядыніч заявіў, што ў сталіцы ёсць 5-6 таможняў, але з іх 2 пастаянна не працуюць, і чэргі туды, як раней у Маўзалей, талоны даюць раз на месяц.

**Жлобін.** Улады Беларусі пагадзіліся, каб Беларускі металургічны завод выпусціў валютныя аблігацыі на 240,5 млн. долараў, каб вывесці БМЗ з няпростай сітуацыі на рынку

**Мінск.** Начальнік упраўлення Мінпрацы А. Такун пацвердзіў, што плануюць павысіць дапамогу па беспрацоўю да ўзроўню БПМ праз увядзенне страхоўкі ад беспрацоўя.

**Кобрын.** Суд пакараў двух настаўніц, па віне якіх у аквапарку патанула вучаніца 2 класа, 3,5 гадамі абмежавання волі, буйнымі штрафамі, пазбавіў на 5 гадоў працы ў школах.

**Гродна.** МУС Беларусі пачаў разборкі з афіцэрамі міліцыі, якія далучыліся да дзейнасці праваслаўных "ваенна-патрыятычных" клубаў епархіі з яўна прарасійскай арыентацыяй.

**Мінск.** Славуты ВІА "Песняры" гатовы прадставіць Беларусь на новым конкурсе песні "Еўрабачанне" у Швецыі з беларускамоўнай кампазіцыяй - песняй "Сокал".

**Капыль.** Мітрапаліт Т. Кандрусевіч даручыў мясцоваму ксяндзу Аляксандру Тарасевічу духоўную апеку над новым "Радыё Марыя – Беларусь", яно пачне вяшчанне ў красавіку.

**Мінск.** Па загаду Міністэрства інфармацыі Беларусі ў друкарні "Палікрафт" знішчылі наклад пасмяротнай кнігі палітолага В. Сіліцкага, хоць цэнзура быццам забароненая.

**Іўе.** Багаты бізнесмэн з Іарданіі купіў на аукцыёне за 1,6 млрд. рублёў помнік архітэктуры, копію знакамітага "Палаца на водах" Варшавы ў вёсцы Жэмыслаўль з паркам.

**Мінск.** Эканаміст Леў Марголін папярэдзіў, што калі Беларусь будзе і далей марудзіць з структурнымі рэформамі, то ўжо ў самы бліжэйшы час краіну чакае сапраўдны абвал.

**Ваўкавыск.** Днём у райцэнтры 58-гадовы п'яны вадзіцель Kia Sportage хацеў уцячы ад ДАІ, сутыкнуўся з BMW і загінуў на месцы ДТЗ, яе кіроўца і пасажыр былі паранены.

## «Апературы «МТС» і velcom абвясцілі павышэнне кошту шэрагу сваіх паслуг і тарыфаў




■ **Аляксей Арэшка, БелаПАН**

**«Нягледзячы на істотныя капітальныя ўкладанні ў дарагое імпартнае абсталяванне і значны рост выдаткаў, звязаных са зменай абменнага курсу нацыянальнай валюты, кампанія velcom не рабіла карэкціроўкі тарыфаў у 2015 годзе, аказваючы паслугі па цэнах 2014 года. Далейшае ўтрыманне тарыфаў на ўзроўні 2014 года магло б зрабіць негатыўны ўплыў на інвестыцыйныя магчымасці кампаніі, таму з 1 снежня 2015 года будзе праведзена карэкціроўка кошту паслуг сувязі», – гаворыцца ў паведамленні velcom.**

Павышэнне тарыфаў закране абаненцкую плату тарыфных планаў, кошт зыходных нацыянальных галасавых выклікаў, міжнародных выклікаў (за выключэннем лінейкі «Прывет»), тарыфы на спецыяльныя і дадатковыя паслугі, прэміум-SMS, паслугі перадачы звестак і роўмінг.

Паводле звестак аператара, абаненцкая плата на большасці тарыфных планаў вырасце на 3.000–8.000 рублёў. Адначасова будуць істотна мадыфікаваныя папулярныя прадукты для смартфонаў: удвая і больш павялічыцца аб'ём уключанага ў абаненцкую плату галасавога трафіку і значна (ад 11 да 45%) знізіцца кошт унутрысеткавых выклікаў.

1 снежня таксама набудзе моц новы парадак абслугоўвання абанентаў: будзе ўведзена адзіная пахвілінная тарыфікацыя і зменіцца парадак расходавання галасавога трафіку, уключанага ў абаненцкую плату, пры тэлефанаваннях на «любімыя» нумары.

У сваю чаргу аператар «МТС» паведамляе, што 30 лістапада абаненцкая плата на большасці тарыфных планаў будзе павялічаная. На ўсіх тарыфах, апрача лінейкі «МТС Смарт», кошт размоў і пераадрасаваных выклікаў унутры сеткі павысіцца. Цана на інтэрнэт-трафік звыш пакетаў, уключаных у абаненцкую плату, застанецца на ўсіх тарыфных планах ранейшай.

30 лістапада будзе зменены кошт некаторых дадатковых і сэрвісных паслуг «МТС». У прыватнасці, цана на інтэрнэт-опцыі «будзе скарэктаваная ў бок павышэння».

Разам з тым, у сувязі з хуткім ростам патрэбаў абанентаў у мабільным інтэрнэце 30 лістапада 2015 года «МТС» значна павялічыць пакеты мегабайт на ўсіх тарыфных планах лінейкі «МТС Смарт», арыентаваных у першую чаргу на актыўных карыстальнікаў смартфонаў. Апрача таго, на ўсіх прапанованых лінейкі павялічыцца і колькасць уключаных у абаненцкую плату хвілін на размовы ўнутры сеткі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З пачатку года падатковыя інспекцыі выявілі ў 1100 беспрацоўных жыхароў вобласці ценявых даходаў на 17 мільярдаў рублёў, у рэестр занесена і 32 тысячы дармаедаў.

**Гарадок.** На мясцовым льнозаводзе закрылі лінію па перапрацоўцы трасты, паколькі валакно не прыносіла прыбыткаў, завод жыве за кошт вытворчасці малака на ферме.

**Наваполацк.** Дырэкцыя ААТ "Нафтан" паведаміла, што не мае магчымасцей павысіць зарплату, праўда, на НПЗ зарабляюць да 12 мільёнаў штомесяц, значна больш, чым у вобласці.

**Верхнядзвінск.** На базе мясцовага лясгаса прайшоў абласны семінар-нарада 45 маладых спецыялістаў, якіх прынялі ў лесаводы і ўручылі кожнаму памятныя медалі.

**Паставы.** Мясцовы малочны завод пашырыў сваю сыравінную базу і стаў купляць малако ў двух гаспадарках Докшыцкага раёна, штодзень ён выпускае цяпер 20 тон сыру.

**Сянно.** У райцэнтры ўрачыста адкрылі пабудаваны за паўгода новы прыгожы двухпавярховы будынак мясцовага прадстаўніцтва Белдзяржстраху.

**Полацк.** Ноччу на гарадскіх могілках "Экімань" 25-гадовы хуліган з яшчэ двума падлеткамі пашкодзілі 63 надмагільныя помнікі, мярзотнікаў аператыўна адшукалі.

**Гарадок.** Самае буйное сельгаспрадпрыемства раёна – райаграпрамснаб аб'явіў аб сваім банкрутстве, працэс ягонай ліквідацыі расцягнецца на 3-4 гады, яго даўгі звыш 100 мільярдаў.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала 38-гадовага мужчыну, раней судзімага за бойку і катаванні, які падчас спрэчкі днём зарэзаў нажом 87-гадовую суседку ў яе кватэры.

**Бігосава.** На мясцовым пункце пропуску ў ходзе афармлення грузавога поезда ў Латвію пагранічнікі выявілі сярод вугалю кантрабандных цыгарэт на 18 мільёнаў рублёў.

**Верхнядзвінск.** Суд пакараў 5 гадамі турмы маладога кіроўцу, які п'яны ноччу збіў скрадзеную дзіцячую каляску, у якой злодзей-рэцыдывіст вёз п'яную сваю сяброўку.

**Наваполацк.** У вучылішчы алімпійскага рэзерву прайшлі выпрабаванні тэхнікі з Фінляндыі па стварэнню штучнага снегу для трас пры плюсавых тэмпературах паветра.

**Глыбокае.** Паблізу раённага цэнтра ля знакамітага дэндрасаду па праграме "Парк здароўя – для здароўя цела і душы" з'явілася пешаходная дарожка з турнікамі і спартыўнымі пляцоўкамі.

**Мёры.** Студэнт сталічнай Акадэміі музыкі з вёскі Слабада Сяргей Мікель атрымаў Гран-пры Міжнароднага харэаграфічнага конкурса ў Грозным і прэмію 100 тысяч рублёў РФ.

**Сянно.** Футбалісты мясцовага "Камунальніка" выйгралі сёлета і чэмпіянат, і Кубак Віцебскай вобласці па футболе, ФК "Віцебск" захаваў прапіску ў эліце чэмпіянату РБ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Мосару – дзве тысячы гадоў, але пра гэта вам ніхто не скажа!

■ Уладзімір Скрабатун

**Глыбоцкія калекцыянеры збіраюць старадаўнія артэфакты для сваіх калекцый не толькі на Глыбоччыне, але робяць дальнія вандроўкі. Напрыклад, у Друю.**

Калекцыянер Алесь М. паказаў аўтару гэтых радкоў апошнія знаходкі.

– *Гэты аскепак кафлі з Пагоняй я знайшоў на месцы старога замка ў Друі*,– кажа Алесь. – *Мой сябра, мінскі археолаг Марат К., якому я выслаў фота па электроннай пошце, вызначыў час паходжання – XVI стагоддзе.*

– Алесь, а ёсць цікавыя знаходкі з Глыбоччыны?

*Так! Знайшоў пацерку з каляровага металу ва ўрочышчы Царкавішча ля Мосара. Каб вызначыць час яе паходжання мы пашукалі ілюстрацыі пацерак, падобную на нашую, на адмысловых сайтах. Знайшлі! Гэта – 10-11 стагоддзе!*

– Гэта значыць, што Мосару 1000-1100 гадоў! Пацерка ж знойдзеная тут! І нейкая мосарская прыгажуня насіла гэтыя пацеркі 11 вякоў таму, адна з якіх знойдзеная табой!

– *Ну, гэта не самы важкі паказчык старажытнасці Мосара! Мальцу аднаму – пашанцавала больш. Ён знайшоў гоцкую фібулу ад арбалета I-II стагоддзя.*

*Але гэта яшчэ не факт, што дзве тысячы гадоў таму ў Мосары жылі готы. Тутэйшыя жыхары маглі і пераняць гоцкую культуру.*

Ёсць гісторыя пісаная, калі яна занатавана ў летапісу, гістарычнай хроніцы, і па даце, указанай там, пачынаецца прызнаная гісторыя пэўнага паселішча. Ёсць гісторыя – няпісаная. Той выпадак, калі яна валяецца наўпрост пад нагамі. Падняў керамічны чарапок, знайшоў фібулу, – паглядзеў даведнікі, ці паслаў фоты сябру археолагу з Інстытута гісторыі НАН Беларусі, і ты ўбачыў тое, пра што ніхто ніколі не напіша – людзі тут жылі не толькі пяцьсот гадоў таму, а сама меней, ужо як дзве тысячы гадоў.

Ды што казаць – старажытны беларускі герб Пагоню цяперашнія няўдзячныя нашчадкі выкінулі на сметнік! Яму ж – пад восем стагоддзяў! Ён быў паўсюль – на сцягах, харугвах, гербах, грашах, жаўнерскіх спражках, нават, на печах.

Шкада, няма ў нашым горадзе музея прыватных калекцый, дзе можна было б паказаць тую няпісаную гісторыю і культуру нашага краю, што была тут тысячу ці дзве тысячы гадоў таму.



**Фрагмент кафлі з Пагоняй, які знойдзены на Друйскім замчышчы. Справа, праўдападобна, ідэнтычны арыгінал.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Падобная кафля з выявай Пагоні XVI ст паводле каталога.**



**Пацерка XI-XII ст, знойдзеная ля Мосара. Фота павялічана ў 3 разы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Птушкай 2016 года ў Беларусі выбралі гогаля

## Гэтая качка жыве і на глыбоцкіх азёрах



У Музеі прыроды і экалогіі ў Мінску 18 лістапада на ўрачыстым узнагароджванні пераможцаў конкурсаў кампаніі «Вушатая сава – птушка 2015 года» грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» аб'явіла птушку 2016 года ў Беларусі. Ёю стане чорна-белая качка – звычайны гогаль.

Пра гэта паведамілі ў АПБ.

«Гэта птушка не гняздуецца на зямлі, як большасць «калег» з сям'і качыных, а займае дуплы старых дрэў. На многіх тэрыторыях уздоўж азёр і рэк засталося мала старых дуплаватых дрэў, і птушкі не могуць знайсці прыдатнага месца для гнязда. Вырашыць праблему могуць біятэхнічныя мерапрыемствы: пабудаваць «дупло» можа любы чалавек. Мы раскажам, як пабудаваць домік для гогаля, правядзём майстар-класы для жадаючых, і разам будзем вырашаць «кватэрнае пытанне» птушкі. Асобную ўвагу ўдзелім веснавому і асенняму паляванню на гэтых вадаплаўных: гогаль не з'яўляецца паляўнічым відам, але часта церпіць з-за недасведчанасці паляўнічых», – расказала аб асаблівасцях птушкі супрацоўніца па прыродаахоўных пытаннях АПБ Вольга Лукшыц.

Птушцы 2016 года будзе прысвечаны шэраг мерапрыемстваў: качка з'явіцца на плакатах у метро, а таксама стане галоўным героем графіці на адным з дамоў Мінска. Летам у Беларусі пройдзе конкурс малюнкаў на асфальце. Сумесна з Нацыянальным банкам Беларусі і РУП «Белпошта» плануецца традыцыйны выпуск манеты і маркі з выявай птушкі года. Самых маленькіх аматараў птушак чакаюць конкурсы малюнкаў. На гэты раз школьнікі будуць маляваць не толькі гогаля, але і ствараць свой уласны вызначальнік качак Беларусі. Палажэнні конкурсаў хутка з'явяцца на сайце АПБ.

«Гогаль не настолькі вядомы, як яго папярэдніца – вушатая сава, таму наша першая задача – пазнаёміць людзей з гэтай птушкай. Мы падрыхтуем прэзентацыю пра гогаля, якую любы зможа скачаць на нашым сайце. Многія гогалі зімуюць у Беларусі, таму праводзіць экскурсіі і ўбачыць птушку 2016 года на ўласныя вочы можна будзе круглы год», – растлумачылі ў арганізацыі.

# Рэформа тарыфаў без рэформаў у рэальным сектары малаэфектыўная, лічаць эксперты

**Рэформа тарыфаў не з'яўляецца дастатковай умовай павышэння канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў. Такое меркаванне выказалі БелаПАН эксперты, каментуючы планы ўладаў паскорыць тэмпы эканамічнага росту за кошт ліквідацыі практыкі перакрыжаванага субсідавання.**

Нагадаем, згодна з афіцыйнымі ацэнкамі, насельніцтва кампенсуе прыблізна 30% затрат, звязаных з аказаннем жыллёва-камунальных паслуг. Астатнюю частку затрат на аказанне платных паслуг насельніцтву пакрывае бюджэт і прадпрыемствы (для іх устанаўліваюцца больш высокія тарыфы)

Ліквідацыя практыкі перакрыжаванага субсідавання з'яўляецца адной з умоў міжнародных фінансавых арганізацый, з якімі беларускія ўлады праводзяць цяпер перамовы аб новых крэдытах.

Паводле ацэнак Міністэрства эканомікі, ліквідацыя перакрыжаванага субсідавання дазволіць павысіць канкурэнтаздольнасць прадпрыемстваў і паскорыць тэмпы эканамічнага росту ў новай пяцігодцы.

Беларускія эканамісты падзяляюць меркаванне аб тым, што рэформу тарыфаў неабходна праводзіць. Аднак, лічаць яны, адной толькі рэформы тарыфаў будзе недастаткова для павышэння канкурэнтаздольнасці эканомікі.

"Рэформа тарыфаў не вырашыць праблем усіх арганізацый. Праблема шэрагу дзяржпрадпрыемстваў, верагодна, заключаецца не ў структуры сабекошту, а ў якасці тавараў, што выпускаюцца", – лічыць эксперт Беларускага эканамічнага даследчаадукацыйнага цэнтра (BEROC) Кацярына Барнукова.

Сучасныя даследаванні, канстатуе яна, паказваюць, што ў міжнародным гандлі важна падтрымліваць пэўны ўзровень якасці, бо калі гэтага ўзроўню няма, то цана прадукцыі не мае значэння – яе ўсё роўна ніхто не купіць. "Гэтая тэма дастаткова актуальная для нашых кампаній", – мяркуе Барнукова.

Беларускія эканамісты выказваюць у сувязі з гэтым сумненне ў тым, што рэформа тарыфаў абавязкова прывядзе да павышэння эфектыўнасці айчынных кампаній.

"Аднаго толькі павелічэння колькасці грошай у эканоміцы недастаткова для павышэння эфектыўнасці іх выкарыстання. У іншым выпадку можна было зніз́іць працэнтныя стаўкі і заліць эканоміку грашыма", – гаворыць эканаміст Антон Балточка.

На яго думку, для павышэння эфектыўнасці нацыянальнай эканомікі неабходна праводзіць не толькі рэформу тарыфаў, але і рэформы ў рэальным сектары эканомікі. "Неабходна рэфармаваць сістэму карпаратыўнага кіравання прадпрыемствамі, што прадугледжвае змену формы ўласнасці апошніх, банкруцтва неэфектыўных арганізацый. Гэтыя захады дазволяць павысіць эфектыўнасць выкарыстання фінансавых рэсурсаў у эканоміцы", – мяркуе Балточка.

***Дзмітрый Заяц, БелаПАН.***

# У Полацкім раёне студэнт да смерці збіў веласіпедыста

22 лістапада ў 17:35 на аўтадарозе **Полацк-Глыбокае** ля вёскі Рагачы Полацкага раёна 20-гадовы студэнт ВГУ на «Volkswagen Polo» здзейсніў наезд на 40-гадовага веласіпедыста, які рухаўся ў сустрэчным кірунку па праезнай частцы дарогі

Як паведамляе прэс-служба ДАІ, ДТЗ адбылося пры сустрэчным раз'ездзе, а веласіпедыст быў пазначаны светазваротнымі элементамі. У выніку аварыі жыхар вёскі Латышкі, які ехаў на ровары, загінуў на месцы здарэння.

***ННВ***

# Дзярждума Расіі ратыфікавала пагадненне з Беларуссю аб спагнанні аліментаў

Дзярждума Расіі ратыфікавала сёння беларуска-расійскае пагадненне аб парадку ўзаемнага выканання судовых пастаноў па справах аб спагнанні аліментаў, перадае карэспандэнт БЕЛТА. Пагадненне было падпісана ў Маскве 3 сакавіка 2015 года. Ім прадугледжваецца, што рашэнні судоў па спагнанні аліментаў, вынесеныя на тэрыторыі адной з краін Саюзнай дзяржавы, не маюць патрэбы ў спецыяльнай працэдуры прызнання і выконваюцца на тэрыторыі другой. Пагадненне прадугледжвае права даўжніка на зварот у суд краіны, на тэрыторыі якой павінна быць выканана судовая пастанова.

***Эдуард Півавар - БЕЛТА***

# Насіце «абутак» па сезону!

**Згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі №483 ад 13 кастрычніка 2014 года з 1 снежня па 1 сакавіка пры ўдзеле ў дарожным руху аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 3,5 тоны ўключна, легкавыя і грузапасажырскія аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай звыш 3,5 тон, а таксама аўтобусы з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 5 тон павінны быць абсталяваны зімовымі шынамі.**

■ **Міхаіл Цынковіч,**
*старшы інспектар ДПС АДАІ, маёр міліцыі*

Адміністрацыйная адказнасць прадугледжана па арт. 18.12 частка 3 Кодэкса адміністрацыйных парушэнняў Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф у памеры да 1 базавай велічыні, г.зн., да 180.000 рублёў.

Зімовыя шыны механічных транспартных сродкаў, прызначаныя для эксплуатацыі на абледзянелым або заснежаным дарожным пакрыцці, павінны быць маркіраваныя знакам у выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і са сняжынкай унутры яе альбо знакамі «M+S», «M&S», «M.S», «MS» або «All seasons». Зімовыя шыны ўсталёўваюцца на ўсіх колах.

Шматлікім аўтамабілістам можа здавацца, што купля камплекта зімовых шын – недазвальняльная раскоша. З іншага боку, з-за павялічанага тармазнога шляху на летніх шынах можна пабіць і сваю, і чужую машыну. А гэта ўжо зусім іншыя грошы, ды і рызыка для ўласнага здароўя.

Розніца ў тармазным шляху тлумачыцца тым, што летнія і зімовыя пакрышкі маюць рознае шчапленне з дарожным пакрыццём. Гэта абумоўлена складам гумовай сумесі, а таксама малюнкам пратэктара. Дзякуючы адмысловым дадаткам і падвышанаму ўтрыманню натуральнага каўчуку зімовая гума больш эластычная і захоўвае свае ўласцівасці нават у моцны мароз. Яе пратэктар мае буйныя блокі з вялікім лікам спецыяльных прарэзаў у блоках пратэктара. Вось чаму зімовыя шыны лепш «чапляюцца» за слізкае пакрыццё і забяспечваюць скарочаны тармазны шлях.

Пры тармажэнні на вельмі слізкім пакрыцці (напрыклад, на гладкім лёдзе) не заўсёды дапамагае нават звычайная зімовая гума. Дамагчыся мінімальнага тармазнога шляху можна абуўшы колы ў зімовую шыпаваную гуму. Аднак кіроўцам, што абралі такі варыянт, варта памятаць, што перавагі шыпоў знікаюць пры руху па асфальтабетоннаму пакрыццю і рыхлым снезе. У апошнім выпадку шчэпныя ўласцівасці значна палепшаць ланцуг супрацьслізгання. У шыпаваных зімовых шынах на мокрым і сухім пакрыцці таксама значна большы тармазны шлях, чым у нешыпаваных.

Вучыцеся ездзіць пазімоваму! Нават самыя дасканалыя зімовыя шыны не могуць тварыць цуды. Таму пасля змены «абутку» усё ж не варта забывацца аб законах фізікі. Напрыклад, зімой неабходна выконваць большую, чым звычайна, дыстанцыю да наперадзе ідучага аўтамабіля. Нядрэнна бы ўспомніць тэхніку экстранага тармажэння (плаўнага, перарывістага, ступеньчатага). Лепш паэксперыментаваць на пустым участку дарогі і паспрабаваць тармазіць спачатку на сухім пакрыцці, а потым на слізкім. Такім чынам, можна вызначыць, як паводзе сябе аўтамабіль у розных дарожных умовах, і ацаніць розніцу ў тармазным шляху аўтамабіля на дарозе з розным каэфіцыентам шчаплення. Пры гэтым, вельмі важна даваць сабе справаздачу адносна рэальных магчымасцяў свайго аўтамабіля ў залежнасці ад наяўнасці тых ці іншых электронных сістэм і памятаць пра асаблівасці яго паводзін.










# Памятайце, што Вас чакаюць дома

**З 24 па 30 лістапада 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзяцца мерапрыемствы «Аб дадатковых мерах па прафілактыцы дорожна-транспартнага траўматызму сярод пешаходаў, веласіпедыстаў і возчыкаў гужавых транспартных сродкаў».**

■ **Анатоль Завадскі,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*

## ДАІ Глыбоцкага раёна інфармуе

Паважаныя пешаходы! Хочацца нагадаць Вам пра тое, што пешаход, згодна Правілаў дарожнага руху, надзелены не толькі правамі, але і абавязкамі, якія ён беспярэчна павінен выконваць.

**Пешаход абавязаны:**

1. Рухацца па тратуары, пешаходнай дарожцы, а пры іх адсутнасці – па абочыне дарогі.

У выпадку адсутнасці названых элементаў дарогі ці немагчымасці руху пешаходаў па іх дапускаецца рух пешахода па краі праезнай часткі насустрач руху транспартных сродкаў, што часта па незразумелых прычынах не выконваецца пешаходамі ў нашым горадзе, дзе мы назіраем тых, хто рухаецца нават пасярод праезнай часткі, што можа прывесці да цяжкіх наступстваў.

Пры руху па краі праезнай часткі дарогі ў цёмны час сутак пешаход павінен абазначаць сябе святлоадбіўнымі элементамі.

2. Пераходзіць (перасякаць) праезную частку дарогі па наземным пешаходным пераходзе **пераканаўшыся, што выхад на праезную частку дарогі бяспечны**. Пры адсутнасці пешаходнага пераходу пераходзіць праезную частку на перакрыжаванні па лініі тратуараў або абочын.

Дадзеныя патрабаванні Правілаў дарожнага руху таксама груба парушаюцца пешаходамі. Пешаходы часта не задумваюцца аб магчымых сумных наступствах, калі не пераканаўшыся ў бяспецы сваіх дзеянняў, выходзяць на пешаходны пераход перад надыходзячым транспартам, яшчэ і размаўляюць па тэлефоне, не звяртаючы ўвагі на транспартныя сродкі.

Перад тым, як перайсці вуліцу, трэба ўлічваць такія фактары, як рэакцыя вадзіцеля, стан праезнай часткі, вопыт вадзіцеля, спраўнасць транспартнага сродку. Трэба заўсёды памятаць пра тое, што пешаход з'яўляецца самым неабароненым удзельнікам дарожнага руху, і дарожныя аварыі з удзелам пешаходаў маюць, як правіла, цяжкія наступствы. З 16 дарожна-транспартных здарэнняў, учыненых у 2014 годзе, вінаватымі ў іх здзяйсненні з'явіліся самі пешаходы, што кажа аб тым, што самыя недысцыплінаваныя ўдзельнікі дарожнага руху – пешаходы. Асноўнымі прычынамі гібелі і ранення пешаходаў з'яўляюцца: раптоўны выхад на праезную частку як пры наяўнасці пешаходных пераходаў, так і пры іх адсутнасці, раптоўны выхад пешаходаў на праезную частку з-за транспартнага сродку, які спыніўся, знаходжанне на праезнай частцы ў п'яным выглядзе, пераход дарогі ў неўсталяваным месцы.

З мэтай папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў у г. Глыбокае супрацоўнікамі АДАІ будуць праводзіцца мерапрыемствы, накіраваныя на выяўленне парушэнняў ПДР пешаходамі, а таксама на выяўленне недысцыплінаваных вадзіцеляў, якія не прапускаюць пешаходаў, што распачалі рух па пешаходным пераходзе. Найбольшую недысцыплінаванасць пешаходы праяўляюць ў вячэрні час і ў выхадныя дні на вул. Леніна, пераходзячы вуліцу ад малога рынка да «Еўраопта» і каля крамы «Рагнеда». Пры гэтым яны груба парушаюць правілы пераходу вуліц, бо пераходзяць вуліцу па-за пешаходнымі пераходамі, хоць апошнія і размешчаны ў зоне бачнасці пешахода. Загадзя папярэджваем пешаходаў аб адміністрацыйнай адказнасці за парушэнні Правілаў дарожнага руху: арт. 18.23 частка 1 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф у памеры ад 1 да 3 базавых велічынь, г.зн., ад 180.000 да 540.000 рублёў.

Арт. 18.23 частка 2 КоАП Рэспублікі Беларусь, парушэнне ПДР пешаходам, учыненае ў стане алкагольнага ап'янення, а роўна адмова ад праходжання ва ўстаноўленым парадку праверкі (агляду) на прадмет стану алкагольнага ап'янення цягне накладанне штрафу ад 3-х да 5 базавых велічынь, г. зн. ад 540.000 да 900.000 рублёў.

Арт. 18.23 частка 3 КоАП Рэспублікі Беларусь, учыненне пешаходамі парушэнняў ПДР, якія пацягнулі стварэнне аварыйнай абстаноўкі, цягне за сабой накладанне штрафу ад 3-х да 8-мі базавых велічынь, г. зн., ад 540.000 да 1.440.000 рублёў.

Заклікаем усіх удзельнікаў дарожнага руху да праявы ўважлівасці і ўзаемапавагі. Выконваючы Правілы дарожнага руху, вы беражэце сябе і сваіх блізкіх ад дарожна-транспартных здарэнняў. Правядзіце гутаркі са сваімі дзецьмі на тэму захавання Правілаў дарожнага руху пры знаходжанні на вуліцы. Памятайце, што Вас чакаюць дома.

# По 1 млн 800 тысяч рублёў за карася заплацяць браканьеры



Ілюстрацыйны здымак з сайта дзяржінспекцыі

**Перад надыходам ледаставу лічым неабходным нагадаць рыбаловам-аматарам аб неабходнасці набыцця пуцёвак на платнае аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Практычна з першых дзён зімовай рыбалкі ўзнікаюць пытанні з нагоды арэнды вадаёмаў і збірання платы за аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах. Карыстаючыся чуткамі аб скасаванні дагавора арэнды, шмат хто з рыбаловаў адмаўляецца купляць у арандатараў пуцёўкі на платных вадаёмах, асобныя з іх патрабуюць падаць ім нават каву на лёд, персанальны туалет і шмат што іншае, ствараючы пры гэтым канфліктныя сітуацыі на роўным месцы.

Як правіла, толькі пасля ўмяшання работнікаў міжраённай інспекцыі арандатар вырашае канфліктную сітуацыю, нягледзячы на тое, што жыхары нашага раёна часта наведваюць вадаёмы Нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры», і ніхто нават думкі не дапускае рыбачыць без рыбалоўнай пуцёўкі, патрабаваць персанальны туалет альбо асобную стаянку. Усе купляюць пуцёўкі, таму што інспектары аховы парку ў адваротным выпадку выпішуць штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя чарговы раз паведамляе аб усіх арандаваных вадаёмах Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, і на якія неабходна набываць пуцёўкі.

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах:** возера Чачалі, возера Марцыбылінскае, возера Вялікая Пліса, возера Белае (в. Бабруйшчына), возера Падавута, возера Крывое-2, возера Карпінскае, Бярозаўскае, возера Свядава.

**На тэрыторыі Пастаўскага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах:** возера Доўжа, Круглае, Баравое – СТАА «ВОЗЕРА», воз. Баравое – ААТ «Пастаўскі льнозавод», возера Світка, Світа – ДЭУ-33, возера Лісіцкае – НВС-ГЕО.

На названых вадаёмах рыбаловам-аматарам, усім без выключэння, у тым ліку і мясцовым жыхарам, неабходна набываць пуцёўку на платнае аматарскае рыбалоўства, для мясцовых – бясплатныя пуцёўкі. У выпадку адсутнасці пуцёўкі альбо адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаюцца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч. 1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Абадміністрацыйных правапарушэннях", г.зн., здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства).

Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асоб арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязаны да выканання рыбаловамі, таму просьба быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

Названымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выкананы неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі і іншых кантралюючых органаў патрабаванні да пераліку паслуг, што аказваюцца арандатарамі, будзе ўзмоцнены, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў.

Нагадваем усім рыбаловам-аматарам пра неабходнасць выканання нормы вылаву рыбы ў суткі на аднаго рыбалова – 5 кг, а таксама дазволенай для вылаву прамысловай меры рыбы. Так, шчупак дазволена для лоўлі 40 см і больш, судак – 40 см, замер робіцца ад галавы да пачатку хваста.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі па названых ніжэй тэлефонах.

Якіх-небудзь змяненняў, дапаўненняў у Правілы рыбалоўства няма, любую цікавую для Вас інфармацыю можаце атрымаць па тэлефонах міжраённай інспекцыі.

За мінулы тыдзень супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі затрымана 5 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, канфіскавана 250 метраў сетак, 10 іншых незаконных прылад рыбалоўства, 36 м$^3$ драўніны, 8 кг незаконна здабытай рыбы.

Так, каля 23 гадзін ночы 18 лістапада на вадасховішчы Азярцы супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі затрыманыя двое жыхароў г. Полацка, якія з дапамогай сетак спрабавалі выкрасці сажалкавую рыбу, але пасля ўстаноўкі сетак неадкладна былі затрыманыя інспектарамі. Улоў парушальнікаў склаў усяго 2 карасі, але пакаранне будзе, як мінімум, 10 базавых велічынь кожнаму, або 1 млн. 800 тысяч рублёў.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

***

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 «тэлефон даверу», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Дваццацігадовы юбілей касцёла ў Канстанцінаве



Біскуп Алег Буткевіч з падарункам – карцінай з выявай Беразвецкага кляштара

**У вёсцы Канстанцінава, што на Глыбоччыне, 21 лістапада адзначылі дваццацігадовы юбілей будаўніцтва касцёла, які быў пабудаваны на месцы разбуранага ў гады ваяўнічага атэізму храма.**

■ **Зміцер Лупач**

На ўрачыстаць прыбыў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, святары, вернікі, як канстанцінаўскай парафіі, так і госці з суседніх парафій.

Высокага госця сустракалі перад храмам пробашч парафіі ксёндз Антоній Лагунёнак, прадстаўнікі мясцовай улады, вернікі.

Урачыстую святую Імшу ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. На заканчэнні богаслужэння біскупу Алегу ў якасці падарунка ўручылі карціну, на якой намаляваны кляштар і храм у Беразвеччы. Зараз, на жаль, храма няма, а ў будынку кляштара размяшчаецца папраўчая калонія. Але, як адзначыў віцебскі ардынарый, для Бога няма нічога немагчымага, і калі на тое будзе Божая воля і жаданне людзей, храм у Беразвеччы можна будзе аднавіць.

На заканчэнні ўрачыстасцей адбылася працэсія вакол касцёла. Закончылася мерапрыестваспевам гімна "Магутны, Божа".

Нягледзячы на тое, што сучаснаму будынку святыні споўнілася толькі два дзясяткі гадоў, сама гісторыя парафіі налічвае некалькі стагоддзяў. Розныя перыяды былі ў гэтай гісторыі, але найбольш пацярпела парафія ў гады ваяўнічага атэізму. Спачатку ў вернікаў забралі святара, а потым і сам будынак, які напачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя быў разабраны. На месцы храма была пабудавана крама.

Але людзі захавалі ў сваім сэрцы моцную веру, якая і дазволіла ім праз тры дзесяцігоддзі ўзвесці на гэтым месцы мураваны храм, які кансэкраваў кардынал Казімір Свёнтак у лістападзе 1995 года.

На жаль, зараз змяншаецца колькасць вернікаў, бо вясковае насельніцтва паступова вымірае. Але спадзяёмся, што храм ў Канстанцінаве не будзе пуставаць, і вера наступных пакаленняў будзе такой моцнай, як і вера нашых бацькоў і дзядоў.

## Віншаванкі

*Марыну Аніськову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Сегодня день рожденья твой,  
Дай Бог тебе крепчайшего здоровья,  
Пусть в очаге твоем ютится лишь покой,  
Согретый счастьем, радостью, любовью.  
Желаю жить без грусти и печали,  
И счастье, как ромашки собирать,  
Чтоб трудности тебя не огорчали,  
Всю жизнь смеяться и не тосковать.

*Калектыў "ВГ"*

